Przesyłka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 3 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня, 8-га ~~чэрвеня~~ ліпеня 1933 г. | Выходзіць два разы ў месяц. | Год I.

Цана абвестак паводле умовы. | Прыймо інтарэсантаў ў рэдакцыі ў нядзелі і чацьвяргі ад 10 да 2 гадз. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр., у 3 » —70 », у 1/2 года—1.30, у 1 год —2.50

## Занядбалая магчымасьць

Сталае пашырэньне і разьвіцьцё каапэрацыйнага руху на Зах. Беларусі, які ахоплівае сабой што-раз шырэйшыя пласты перадусім бядняцка-сялянскае масы, змушае нас сяньня, у дзень міжнароднага сьвята каапэрацыі, спыніцца ў пару словах на гэтым пытаньні.

Каапэрацыяй мы звычайна называем рознага роду арганізацыі, мэта якіх, на аснове супрацоўніцтва і ўзаемнай дапамогі, змагацца гаспадарчымі спосабамі супроць тае або іншае формы вызыску капіталу. У залежнасьці ад формы вызыску каапэрацыйныя арганізацыі ставяць перад сабой розныя заданьні. Спажывецкая каапэрацыя змагаецца супроць гандлёвага капіталу, крэдытная—супроць ліхвярства, вытворчая—супроць вызыску рабочае сілы і т. д.

Такім чынам ужо з гэтага вынікае, што карэньні каапэрацыйнага руху зьмяшчаюцца ў тых гаспадарчых адносінах, якія уласьцівы сяньняшняму грамадзкаму ладу, ладу, званаму капіталізмам. Рух гэты паўстаў, як адказ на нязносны вызыск працуючага насельніцтва ўласьнікамі прадпрыемстваў, гандлярамі і ліхвярамі, як спосаб шуканьня ратунку перад гаспадарчай кабалой мільённых масаў народу.

Якое-ж значэньне мае каапэрацыя для сяньняшняга грамадзтва?

Утопійныя ідэолёгі каапэратывізму думалі шляхам закладаньня і пашырэньня каапэратыўных арганізацыяў ператварыць сяньняшняе капіталістычнае грамадзтва ў грамадзтва колектыўнае, дзе ня будзе падзелу чалавецтва на групы эксплёатуючых і эксплёатаваных, марылі аб ліквідацыі злых старон цяперашняга жыцьця шляхам аб'яднаньня ўсяго насельніцтва ў агульна-каапэратыўнае таварыства. Аднак лятуценьні гэтыя хутка лопнулі, як мыльныя пузыры, разьбіліся аб суровую запраўднасьць, таму іменна, што яны былі выключна лятуценьнямі, якія не нарадзіліся з навуковага дасьледаваньня самага жыцьця, а толькі з галавы паасобных людзей.

Каапэрацыя ў сучасны мамэнт, пры фактычным панаваньні вялікіх капіталістычных аб'яднаньняў—т. зв. трэстаў, сындыкатаў, канцэрнаў, — пры абсолютнай уладзе банкаў, сілаю рэчаў, нават пры найбольш спагадных умовах, змушана адыгрываць падпарадкаваючую ролю. Яна мусіць дастасавацца да таго, што дыктуюць манаполі, яе праца і разьвіцьцё сьціснуты ў жалезных кляшчох капіталістычнае гаспадаркі. Таму каапэрацыйныя арганізацыі ня могуць выйсьці па-за рамы сяньняшняй гаспадарчай будовы, ня могуць нарушыць натуральнага бегу гэтай апошняй. Таму нічога дзіўнага, што сама арганізацыя працы каапэратываў моцна зьліжаецца да тыпу капіталістычнай арганізацыі і, ўрэшце, у аснаўным выраджаецца ў фактычнае дапаўненьне недахопаў сяньняшняй гаспадарчай сыстэмы.

Ня значыць ўсё гэта, што каапэратыўны рух ня мае або ня можа мець паважнага грамадзкага значэньня, асабліва ў нашых заходня-беларускіх умовах. Мы не гаворым тут аб каапэрацыі ў Савецкім Саюзе, дзе, як сьцьвярджаюць нават польскія паважнейшыя часопісі, яна адыгрывае, запраўды аграмадную ролю ў справе перабудовы грамадзтва, выражаючыся ў розных формах на паасобных этапах разьвіцьця. Да гэтага часу ў нашай краіне каапэрацыйнаму руху прыдавалі і прыдаюць малое значэньне. Недаацэнка гэтая выклікана, бязсумліву, той акалічнасьцю, што практыка выявіла ўсю слабасьць каапэрацыйных арганізацыяў у барацьбе за палепшаньне дабрабыту зарганізаваных слаёў насельніцтва. Існаваньне ў паасобных мясцовасьцях даволі густое сеткі, пераважна спажывецкіх каапэратываў не змагло прынясьці і ніколі не прынясе колькі-небудзь паважнейшай папраў быту незаможнай людносьці, бо каапэратыўная дзейнасьць агранічана законамі разьвіцьця сучаснай гаспадаркі ў цэласьці. І таму тыя, хто стараецца „даказаць“, што агульная каапэрацыя прывядзе да значнай папраўы матэрыяльнага палажэньня, або да заснаваньня новага ладу сьвядома ці несьвядома ашукваюць тых, каторыя слова сваіх „вучыцялёў“ прыймаюць за чыстую манэту.

Але ўсё гэта ні ў якім выпадку не павінна засланяць перад намі другое, пабочнае стараны справы. Каапэрацыйны рух, будучы слабым у сваёй гаспадарчай галіне можа і павінен у нас стацца адным з паважнейшых чыннікаў абуджэньня, усьведамленьня і арганізацыі беларускага народу, а ў першую голаву яго працоўных слаёў. Дацяперашняя практыка паказала, што побач з некаторымі гаспадарчымі дагодамі беларускія спажывецкія каапэратывы там, дзе няма праўдзівых культурна-асьветных арганізацыяў могуць стацца асяродкам, прыцягваючым пунктам усіх жывых, культурна-асьветных сілаў нашага народу. Таму ня трэба забывацца, што *каапэратывы—гэта ня толькі гаспадарчыя, але і культурна асьветныя арганізацыі, яны барацьбіты ня толькі за палепшаньне матэрыяльнага, але і культурнага быту.* Вось гэта павінна быць для нас кіруючай ніткай у каапэрацыйнай працы. Некаторыя каапэратывы выпускаюца гэта з вачэй і таму дзеяльнасьць іх агранічана выключна да гандлю сольлю і сялядцамі. Тыя-ж каапэратывы, дзе праца мае ўсебаковы характар ператвараюцца ў праўдзівых разсаднікаў культуры. Яны будуюць народныя дамы, закладаюць бібліятэкі-чытальні, ладзяць спэктакль-вечарыны, чытаюць лекцыі, вядуць барацьбу з няпісьменнасьцю і т. д. Больш таго. Беларускія каапэратывы пры ўмелай, адпаведнай чыннасьці, маюць не апошняе арганізацыйна-выхаваўчае значэньне. Яны прывучаюць працоўныя масы да арганізаванай супольнай дзеяльнасьці, узгадоўваюць у духу салідарызму і калектыўнасьці, абуджаюць у іх, урэшце, нацыянальную сьведамасьць.

І таму погляд на спажывецка-каапэратыўныя арганізацыі, як на арганізацыі, якія ня маюць нічога супольнага з нашым народна-адраджэнскім жыцьцём зьяўляецца з грунту рэчы фальшывым, а нават шкодным. Толькі той хто ня бачыў дзеяльнасьці каапэратываў у жыцьці, толькі той, хто мае мутнае паняцьце аб самой каапэрацыі наагул можна так адносіцца да каапэратыўнага руху. Трэба нарэшце зламаць з такімі думкамі, даць сабе ясную справу з важнасьці каапэратыўных арганізацыяў у нашых умовах і прыступіць да засноўваньня спажывецкіх каапэратываў усюды, дзе толькі існуе да гэтага належны грунт ёсьць адпаведныя сілы. Масавае закладаньне беларускіх каапэратываў у вёсках, гародах і мястэчках пры адпаведнай актыўнасьці самога народу спараліжуе імкненьне беларускіх хадэкаў да тварэньня з каапэратываў сваіх палітычна-ідэолёгічных аддзелаў, якія маюць быць апорай хрысьціянскіх дэмакратаў і аднача сна рэчышчам для скіраваньня яе ўплываў у гушчы беларускага народу.

Выраўняем занядбалую галіну!

## У нямецкім катле.

У нямецкім катле бурліць. Гітлероўская рэакцыя ня спыняе дзеяльнасьці ў кірунку „адраджэньня“ нямецкага народу. Кожын дзень прыносіць новыя і новыя факты, якія з усёй відавочнасьцю выяўляюць аблічча гітлероўскіх „збаўцаў людзкасьці“. Апошнімі часамі вялікага разгалосу набраў т. зв. лёндански мэморыял, цяпер ужо быўшага міністра гаспадаркі гітлероўскай Нямеччыны — Гугэнбэрга, мэморыял, які зьмяшчае ў сабе сутнасьць, ці, як выражаюцца, квінтэсэнцыю палітыкі цяперашняй Нямеччыны. Мы ў папярэднім нумары нашай газэты зазначылі, што галоўная думка ўспомненага мэморыялу зводзіцца да дамаганьня нямецкага ўраду звароту ўсіх афрыканскіх калёніяў, адабраных у яе ў часе сусьветнае вайны і закліку да антысавецкай інтэрвэнцыі. Гугэнбэрг у мэморыяле сваім зьвяртае ўвагу кіраўнічых колаў іншых дзяржаў, што сяньняшняя Нямеччына пад кіраўніцтвам Гітлера вядзе барацьбу з упадкам заходняга сьвету. Барацьбе гэтай павінны дапамагчы ўсе заходня-эўрапейскія дзяржавы, бо ўзмацненьне сілы Нямеччыны ёсьць варункам аздараўленьня сьвету наагул.

„Бомба“ Гугэнбэрга не зьяўляецца чымсь нечаканым. Яна ёсьць толькі незамаскаваным выражэньнем афіцыяльнай праграмы гітлероўскага рэжыму, яго рэвізыяністычна-інтэрвэнцыйнай палітыкі. Гугэнбэрг толькі ў словах выразіў тое, што практычна падгатаўляецца ўнутры Нямеччыны. Жорсткае перасьледаваньне палітычных праціўнікаў ня сьціхае. Вастрогі і канцэнтрацыйныя лягеры перапоўнены. Пылаюць кастры „гэрэтычных“ кніжак. Людносьць знаходзіцца пад уладай разьюшаных гітлероўскіх бранзовых кашуляў. Здушана ўсялякая свабода слова. Растуць збраеньні. Інсцэнізацыя «тайных» аэрапляна ў над Бэрлінам мае быць прычынай да узможанай прадукцыі ў галіне прыладаў сьмерці. Ліквідуецца сацыял-дэмакратычная партыя, партыя, якая дапамагала гітлероўцам прыйсьці да ўлады. Разьвязана нямецкая нацыянальная партыя. Што-раз часьцей паўтараюцца налёты на савецкія гандлёвыя прадстаўніцтвы. Арганізуюцца войскі бела-расейскай эміграцыі. Усё гэта разам з плянамі Розэнбэрга і трактатам чатырох мае быць падгатоўкай да выкананьня гэнеральнай лініі Гітлера-Гугэнбэрга — паходу на польска-савецкія землі і распаленьня новага сусьветнага пажару.

Мэморыял Гугэнбэрга стаўся прычынай новага паважнага завастрэньня савецка-нямецкіх адносінаў. З газэт даведваемся, што ў савецкай прэсе распачалася зажартая кампанія супроць усходніх плянаў нямецкага імпэрыялізму. Мэморыял гэты прэса называе «найбольш бязглуздым дакумэнтам» апошніх часоў, а тварцоў яго людзьмі «ўцёкшымі з дому вар'ятаў» і зьвяртае ўвагу нямецкім авантурнікам, што «з СССР у Нямеччыну можа аказацца бліжэй, чым з Нямеччыны ў СССР» (паводле Отмара ў «Газ. Польскай» з 25. VI. 33 г.).

Амбасадар Сав. Саюзу ў Бэрліне Хінчук злажыў на рукі нямецкага ўраду энэргічны пратэст супроць мэморыялу Гугэнбэрга. У пратэсце гэтым Хінчук заявіў, што нямецкая дэлегацыя на лёнданскай канфэрэнцыі адкрыта заклікала прадстаўнікоў іншых дзяржаў да вайны з СССР, дамагаючыся, каб тэрыторыі Сав. Саюзу былі аддадзены Нямеччыне для мэтаў калянізацыі. У зьвязку з тым, што падобныя крокі нямецкага ўраду стаяць у яскравай супярэчнасьці з трактатам у Рапальлё, Хінчук ад імя свайго ўраду зьвяртае на гэта ўвагу, складаючы энэргічны пратэст.

Такім спосабам савецка-нямецкія адносіны з кожным днём уходзяць у каляіну што-раз паважнейшага напружаньня. На фоне міжнародных падзеяў яны маюць аграмаднае значэньне і мы, беларусы, з асаблівай цікавасьцю павінны да іх прыглядацца.

*Ю. Дубік.*

# Правакуюць.

Побач з хлусьлівымі даносамі „Бел. Крыніцы“ і „Роднага Краю“ на нашу газэту, дня 29-га чэрвеня выступілі віленскія беларусажэрцы з-пад знаку „Dziennika Wileńskiego“, у якім зьмяшчана правакацыйная зацемка аб „Бел. Газэце“. Эндэцкая зграя, трымаючыся старога спосабу падшываньня кожнай праяве беларускае працы камуністычнай падкладкі, каб такім чынам абрушыцца з усей сілай на найменшае ажыўленьне ў нашым народна-адраджэнскім жыцьці, стараюцца прышчапіць камунізм і нам, і гэтым самым спавадаваць рэпрэсіі ўладаў.

Мы зусім разумеем, што эндэкам не па душы прыходзіцца ўзмацненьне і пашырэньне нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларускага насельніцтва. Мы разумеем, што эндэцкія шовіністы хацелі-б бачыць у нашым краі нацыянальна чыста польскія правінцыі. Мы даем сабе справу з таго, што выхад у сьвет народнай беларускай газэты, газэты, якая рэпрэзэнтуе праўдзівыя нацыянальна-адраджэнскія ідэалы беларускага народу, мусіў выклікаць у эндэцкіх колах акт абурэньня, якое, як звычайна, вылілася ў правакацыйны данос.

Абвінавачаньне нас у камунізьме або ў блізкасьці да яго — гэта стары, аб‘еджданы, усім знаны мэтод барацьбы з нацыянальна вызваленчым рухам. Цьвёрдалобыя эндэкі ў такім выпадку пад плашчыкам біцьця камунізму б‘юць нацыянальна-адраджэнскі рух беларускага народу. І таму мы моцна верым, што „праца“ эндэцкіх жуброў ня будзе мець ніякага ўплыву на рост беларускай нацыянальнай сьведамасьці, што высілкі іх разаб‘юцца аб волю нашага народу да ўзмацненьня культурнай беларускай працы, што „Бел. Газэта“, паміма ўсяго, з кожным днём будзе замацоўваць свой быт, апіраючыся на матэрыяльнае і маральнае падтрыманьне народу.

# Крыху разважаньняў над беларускай прэсай.

Не з сягоньняшняга дня ўсім ведама, што беларуская вёска паволі прывыкае чытаць газэту. Вёска цікавіцца грамадзкім жыцьцём, хоча ведаць што робіцца на сьвеце, хоча паглыбляць сваё нацыянальнае ўсьведамленьне. Але ў часе вялікага зацікаўленьня беларускай прэсай, наш селянін так начыста згалеў, што ня можа здабыць залатоўкі, каб выпісаць газэту. Іншы калі і мае ў звароце які грош, а трэба выбіраць ці купіць яму хлеба, солі ці выпісаць газэту, выбірае безумоўна тое, што яму больш патрэбна, каб неяк існаваць на сьвеце, каб прабіцца з дня на на дзень. Ня гледзячы на такія цяжкія варункі жыцьця, ня можна ўсё-ж такі сказаць, што няма ўжо ніякай магчымасьці чытаць сваю газэту. У кожнай вёсцы найдзецца пара людзей, якія маглі-б сабе пазволіць выдаць невялікую суму на сваю газэту і дзяліцца ёй з сваімі суседзямі. Калі-ж каму ня лёгка аднаму плаціць за газэту, той перадусім павінен паклапаціцца выпісаць яе ў складчыну. Тады газэта абойдзецца так танна, што ня гледзячы на галіту, было-б сьмешна жаліцца на такі малы і неабходны выдатак.

Як бачым, хто хоча чытаць, той пры добрай арганізацыі сродкі і спосаб на гэта знойдзе.

Паўстае цікавае пытаньне: чаму-ж аднак здараецца, што цэлая вялікая вёска ня мае аніводнай беларускай газэты?

Прычынаў гэтага зьявішча можна шукаць шмат дзе. Найважнейшай аднак з іх ёсьць адсутнасьць прэсы, якая-б адбівала настроі і думкі сучаснай беларускай вёскі. Трэба сабе сказаць тут сьмела і з усей пэўнасьцю, што беларускія друкі, якія паяўляліся ў працягу апошніх 4 – 5 гадоў, за рэдкімі выняткамі не прамаўлялі да пераканаьня і не адпавядалі інтарэсам найшырайшае народнае гушчы.

Наша вёска ня вельмі »грэшыць« вялікім палітычным і грамадзкім усьведамленьнем. Шмат там яшчэ нясьведамасьці і наіўнасьці. Пацешыцца можна толькі адным, што вёска ўжо не настолькі цёмная, каб не пазналася на сапраўдным твары т.зв. прыяцеляў народу. І тут вось ляжыць адказ чаму паміма голаду на літаратуру хадэцкія і санацыйныя часопісі ня маюць рынку збыту. Вёска інстыктыўна разумее, што ўся левая фразеологія „Крыніцаў“ і „Родных краёў“ ёсьць толькі *сурагат, штучная падмена прэсы праўдзівай, прэсы якая-б магла захапіць, будзіць, вучыць і вясьці народ да новага лепшага жыцьця.*

З ўсяго сказанага можна і трэба зрабіць пэўныя вывады і пажаданьні.

Мне, пішучаму гэтыя радкі, як чалавеку не належачаму да складу Рэдакцыі „Бел. Газэты“ хацелася-б безстаронна сцьвердзіць, што »Беларуская Газэта“ мае за найважнейшае заданьне *запоўніць тую пустату ў беларускай прэсе*, якая вытварылася на скутак цяперашняга нашага палажэньня ў межах польскай дзяржавы. Буду верыць і жадаць, што „Бел. Газэта“ станецца органам не дзеля драбязных і сьмешных разрахункаў асабістых, як гэта бачым у іншых беларускіх газэтах, але надалей будзе стаяць на грунце інтарэсаў працоўных масаў, адбіваючы іх настроі і штодзенныя патрэбы. Але каб так сталася, мала высілкаў з боку Рэдакцыі, трэба каб наша грамадзянства падтрымала сваю новую часопісь і маральна і матэрыяльна. Тагды голад на газэту, якая адказвае вымогам вёскі, будзе заспакоены.

*А. Крыўскі.*

Горадня, 4·VI· 33

# Вушы з закуліс.

З помпаю, з асабліваю павагаю выбіраліся дэлегаты ўсіх капіталістычных краінаў на нашумеўшую эканамічную канфэрэнцыю ў Лёндане.

Караспандэнты сьпісалі аркушы паперу, лавілі, хто скажа найвастрэй. Кожын з іх стараўся першым схапіць якую-небудзь, хоць невялікую навіну, — каб першым у сваім поглядзе апавясьціць усяму сьвету, які паслаў сваіх дэлегатаў. А зьехалася іх, дзякаваць Богу, на 12 чэрвня г. г. аж 1500 асобаў. Самы ведаеце — з 67 краінаў ( у тым ліку і СССР).

Першы дзень. Агульная ўрачыстасьць... Сядзяць поўныя, тлустыя людзі... Слухаюць цёплую, як з-пад каровы малако, прамову самога ангельскага Караля... Рассыпаныя, гучныя воплескі.

На трыбуну залазіць вусаты, ужо стары ўсім вядомы і з усіх бакоў, Мак-Данальд, адзін з арганізатараў вось гэтай, так урачыста адчыненай ратуючай сьвет конфэрэнцыі. Гаворыць ён паважна. Прывычны прамоўца. Гаворыць наагул, вядома сусьветны муж. За ім выступалі яшчэ і яшчэ. Выносілі прапановы, трасьлі кулакамі, пагражалі дрэннаму паветру вінаватаму ў крызісе.

Хоць, калі дзівішся зьверху на залю, дзе засядаюць, ня скажаш, што гэта сядзяць людзі па чыіх плечах паўзе чатыры гады гэтая страшная жывёла сьвету, вядомая ў адным слове: „крызіс“. Дзе ён ужо змог пакінуць глыбокі сьлед тых ня відно.

Ад урачыстасьці перайшлі да штодзеннае працы.—Закулісы... Адтуль сталі паказвацца сапраўдныя вушы сабраўшыхся.

Гугэнберг—Нямечына — вылез з усей галавою... Стукнуў аб стол кулаком і крыкнуў на ўвесь сьвет аб тым, аб чым другія, гэтак сама думаюць, але-ж пакуль што, налажыўшы два пальцы правае рукі на губы, чакаюць свайго часу.

„Мы патрабуем права на калёні — гучэў Гугэнбэрг—патрабуем, каб вярнулі ўзятае ў нас... Мы „хочам папхнуць нямецкую расу на ўсход!“

Пасьля гэтых вушэй паказаліся другія, праўда замаскаваныя, але-ж усё ройна вушы... Яны на сабе вынясьлі справу даўгоў ваенных і паваенных. Гэта старая песьня. З закуліс яна заўсёды выходзіць першай на ўсякім новым урачыстым зборышчы, жуючы апэтыты, разстройваючы слабыя арганізмы тых, каго гэта тычыца.

Такім чынам голасна скліканая і ўрачыста адчыненая канфэрэнцыя папала ў тое самае кола супярэчнасьцяў, што і папярэднія.

Спачатку трэск газэт. Потым салодкія прамовы, і зноў шпальты газэт, потым закулісы. Разьбіліся на групы дзяржаў. Смутныя, нудныя дні...Іх ужо прабегла больш 20...Што раз становіцца цішэй і цішэй...

Роджанае дзіця людзьмі з мінай здаровых, пры бляску і сьвеце пачынае ўміраць бяз сьвечкі... Астыглі... Карэспандэнты мала пішут ў газэты... Ціха па адным разьяжджаюцца. У залі становіцца зусім пуста.

Маўчыць і прыемнік дзіцяці ангельскі кароль... Заняўся хатнімі справамі Мак-Данальд...

*А. Бор.*

# Правінцыяльныя малюнкі

## Пішу ў газэту...

Сёньня атрымаў вашую газэту. Сёньня-ж, пад сьвежым і радасным ураженьнем пішу да вас.

Я вясковы інтэлігент. Здабываў сваю веду саматугам, так вось, як гэта Вы заклікаеце рабіць у № 1 Вашай і разам нашай газэты. Будучы маладым, я аднак, як на свае гады, даўно ўжо злучыў сваё існаваньне з беларускім рухам, уважаючы яго ня толькі, як імкненьне беларускага народу да здабыцьця належных сабе правоў, але і як адзін з прогрэсыўных рухаў сучаснага сьвету. Таму кожная зьява ў беларускім грамадзкім жыцьці мяне моцна закранае. Не магу таксама прайсьці моўчкі і каля такога факту, як выхад „Бел. газэты“.

Мне прыходзілася чытаць газэты іншых напрамкаў. Іх ужо чалавек так ведаеш, што нават не памыліўся-б, прадбачыўшы, што напішуць яны ў наступным нумары. Гэтыя „Бел. Крыніцы“ і „Родныя Краі“ прыеліся горш горкай рэдзькі. Што праўда іх ў нашу ваколіцу збыт мала прыходзіць.

У „Бел. Газэце“ я чую зусім новы павеў. Нешта бадзёрае, жывое, закранаючае самую глыбіню душы кожнага сьведамага беларуса. Вы, грамадзяне рэдактары, можа і не выабражаеце таго, якое ўражаньне на нас робіць іменна такое друкаванае беларускае слова.

На падставе ўжо першага нумару, можна судзіць, што Вы хочаце даць сваім чытачом. Аднак я думаю, што Вы з прыемнасьцю хацелі-б ведаць, чаго з свайго боку- хацелі-б ад Вас чытаты. Гэта было-б ня толькі паказьнікам Вашых намераў, але і аблячэньнем у іх рэалізацыі. Няхай вось гэтыя пазытыўныя пажаданьні будуць адначасна і крытыкай тых недахопаў, якія—я думаю, што і Вы самі гэта прызнаеце,—існуюць у „Бел. Газэце“.

Перадусім сапраўдныя шчырыя беларусы

# Хто вінават?

Рэдакцыя наша атрымала цэлы шэраг пісем, у якіх парушаецца пытаньне антыжыдоўскіх настрояў сярод вясковага і гарадзкога насяленьня. У пісьмах гэтых карэспандэнты і чытачы просяць нас напісаць нешта аб антысэмітызьме, даць нашае тлумачэньне гэтага зьявішча. Адзін з паважаных нашых карэспандэнтаў дае жывую гутарку яго з „даволі разьвітым і бывалым селянінам“, гаспадаром чытарох дзесяцін поля, быўшым „пекарам і качагарам на паравозе, добрым знатаком свае ваколіцы і яе людзей“. „Селянін гэты — піша наш карэспандэнт — ад душы ненавідзіць сваё сучаснае палажэньне, але ўсю віну за яго цяжкасьці звальнае на. . жыдоў, як такіх. Ен сярдзіты на іх і за тое, што яны, па яго думцы, ня хочуць працаваць, і за тое, што яны, быццам, усе ашукваюць народ, і за тое, што яны добра жывуць, смачна ядуць, чыста адзяваюцца. Аднак калі карэспандэнт ставіць перад селянінам цэлы шэраг пытаньняў, дык гэты апошні пачынае „пасаваць“ перад слушнасьцю свайго тлумачэньне, цьвердзячы раз, што „вінавата сялянская цемната, другі раз, што вінаваты ўрад, урэшце чуе, што такога тлумачэньня мала, і просіць, каб рэдакцыя дала яму адказ, а тады ён будзе думаць і можа прыдзе да іншых вывадаў. Цяжкая доля селяніна, як бачым змушае яго ня толькі ніжэй гнуць і так сагнутую сьпіну, але і думаць над тым, чаму яе прыходзіцца гнуць. Ідучы на спатканьне чытачом „Бел. Газэты“, падаём ніжэй невялічкі артыкул на тэму антысэмітызму.

*Рэдакцыя.*

Ня толькі ў Нямеччыне і Баўгарыі, Румыніі і Югаславіі, але і ў іншых краінах сьвету бушуе хваля дзікага антысэмітызму. Даведзеныя крызісам да крайняе ўбогасьці, да роспачы масы рабочага, сялянскага і мяшчанскага насельніцтва шукаюць віноўніка іх цяжкога палажэньня, шукаюць выхаду з стану хранічнай безрабоціцы, безграшоў‘я і паўгалоднага існаваньня, з стану безперарыўнай няпэўнасьці заўтрашняга дня.

Дзе выхад? Хто вінават?

Гэтыя грозныя пытаньні разносяцца з вуснаў мільёнаў і толькі больш сьведамыя, паступовыя, групы насельніцтва пачынаюць ясьней і ясьней разумець, што прычыны пануючай завірухі крыюцца ў істоце сяньняшняга грамадзкага ладу, што выхаду з цяперашняга палажэньня трэба шукаць у перабудове яго, у перавядзеньні сучаснай гаспадаркі на новыя, больш дасканальныя рэйкі. Гэтае стала ўзрастаючае разуменьне свайго палажэньня, гэтае так званае радыкалізаваньне шырокіх гушчаў насельніцтва — ставіць перад рэакцыйна-консэрватыўнымі і шовіністычнымі групамі пануючых клясаў заданьне разладаваньня ўзрослай сьвядомасьці і скіраваньня яе ў рэчышча, якое найбольш адпавядае інтарэсам пунуючай сыстэмы.

Інсцэнізаваныя жыдоўскія пагромы расейскага царызму ў мамэнтах нязвычайнага завастрэньня ўнутраны[illegible]рэчнасьцяў, у мамэнтах набліжаючагася штур[illegible]у народных масаў на крэпасьць абшарніцка-капіталістычнага вызыску і паліцэйскага ўціску мелі быць „кляпай бясьпечнасьці“, спосабам скіраваньня энэргіі зрадыкалізаваных, але маласьвядомых масаў ад барацьбы з царызмам на барацьбу з жыдоўскім народам.

Сяньня царскія пагромы становяцца узорам для заходніх «цывілізатараў». „Жыды вінаваты“. „Жыды прычыніліся да агульнага аб‘яднэньня“!— вось лёзунгі, з якімі гітлерыяда ў Нямеччыне, эндэкі ў Польшчы, пануючыя клясы ў іншых краінах падыходзяць да несьвядомай і маласьвядомай масы згалелай люднасьці. «Бі жыдоў — вось выхад!» — выпісваюць на сваім сьцягу міжнародныя гітлероўцы. І чым больш завастраецца гаспадарчы крызіс, чым больш палажэньне становіцца паважнейшым — тым больш заядлага і сыстэматычнага характару набірае супроцьжыдоўская кампанія. Усе сілы кідаюцца на гэты фронт. У прэсе, на мітынгах, часта ў школах і унівэрсытэтах, у горадзе і на вёсцы—антысэміцкая акцыя вядзецца з застасаваньнем найбольш выпрабаваных мэтодаў. Цёмная, забітая, заскарузлая, адсталая маса мяшчанскага насельніцтва напітваецца антыжыдоўскім дурманам, ствараецца падатны грунт для арганізацыі самых жыдоўскіх пагромаў. І ў паасобных краінах праносіцца бешаная пагромная навальніца, якая часта-густа ў свае шэрагі прыцягвае менш сьвядомыя адзінкі нават з рабочае клясы і бядняцка-сялянскае масы.

Асновы паўстаньня і распаўсюджваньня антысэміцкіх настрояў сярод значных кругоў нашага грамадзянства ляжаць у гістарычна-сацыяльных варунках быту і разьвіцьця жыдоўскае нацыянальнасьці. Гістарычныя падзеі, раскінуўшы жыдоўскі народ па чужых краінах, змусілі яго адначасна

хочуць мець газэту г. зн. такі сродак, які даў-бы ім веду самых неабходных фактаў, як з жыцьця сьвету, так і Беларусі. Так і ня іначай прыходзіцца ацаніць газэту, бо мы-ж ня жывём у паветры, але на зямлі, на пэўнай дзяржаўнай тэрыторыі... Але кожная газэта, няхай толькі падае адныя голыя факты, яна самым выбарам гэтых фактаў, іх угрупаваньнем будзе так ці інакш абрабляць ідэолёгію свайго чытача. Ня можа нідзе быць іначай. А таму вось я і хацеў-бы, каб „Беларуская Газэта“, падаючы тыя ці іншыя факты *мела на мецe паднящьце нацыянальнай сьведамасьці беларусаў, г. зн. узгадавала ў кожнага беларуса пачуцьцё прыналежнасьці да Беларускага Народу, які мае багатую прошласьць, сур‘ёзную сучаснасьць і загар‘тованую ў змаганьні будучыню,* таму што *нацыянальная сьведамасьць зьяўляецца маторам нацыянальнага руху, яго рўх юючай сілай.*

Але быць нацыянальна сьведамым — гэта ня толькі прызнаваць сябе беларусам. Гэта значыць таксама мець здольнасьць разглядаць усе важнейшыя падзеі пад кутом гледжаньня інтарэсаў Беларускага народу і яго барацьбы за свае ідэалы і—што за гэтым ідзе—дзейнічаць суадказна такому разуменьню. Адгэтуль выцякае важны вывад. Іменна той, што ўсе важнейшыя факты грамадзкага жыцьця трэба разглядаць не як адарваныя, абстрактныя, але выяўлядь іх бязспрэчную сувязь з тымі падзеямі, якія перажываюць беларускія народныя масы.

Кожная газэта, таму яна і завецца газэтай, што мае на мэце падаваньне перадусім палітычных фактаў г. зн. фактаў адносячыхся да дзяржаўнага жыцьця. Ня можа быць у гэтым вынятку і для „Белар. Газэты“. Вось тут я і хацеў-бы выказаць думку чытача „Бел. Газэты“, каб яна, пішучы аб палітыцы, ці то міжнароднай, ці ўнутранай увязвала яе з нашым быцьцём, каб было ясна, на што кожнаму беларусу трэба ведаць аб тым і аб тым, чаго можна чакаць ад той ці іншай падзеі для беларускага народу. Бо наш селянін і без газэт займаецца палітыкай, мо‘ і сам гэтага не заўважыўшы. Ён на падставе з вуснаў у вусны перадаваных вестак, часта фантастычных і супярэчлівых абгаварывые тыя ці іншыя выпадкі. Ён гаворыць і аб вайне, і аб падатках і яшчэ аб нязьлічаных справах, але ўвязвае гэтыя справы з сваім індывідуальным палажэньнем, пакідаючы часта на боку інтарэсы народу ў цэлым. Цяпер ён мае магчымасьць даведацца праўдзівых фактаў, а таксама навучыцца ўвязваць іх з лёсам народу, падымаючы вышэй сваю нацыянальную сьведамасьць.

Але палітыка—гэта толькі адна, праўда найважнейшая, галіна сучаснага грамадзкага жыцьця. Таму я хацеў-бы, каб у „Бел. Газэце“, былі вестк і абгаварваліся справы з іншых галін, а ў першую чаргу з гаспадаркі, культуры, навукі, мастацтва і літэратуры.

Мы павінны ведаць, як жывуць, як змагаюцца іншыя народы, каб параўнаць усё гэта з тым, што маем мы, каб скарыстаць для сваёй навукі іх жыцьцёвую практыку. Але, як мы гэта зробім ня ведаючы, як жыве і змагаецца Беларускі народ? І так, нам трэба пазнаць сябе і сваё палажэньне. І то, зрабіць гэта усебакова, г. зн. нам трэба ведаць нашу гісторыю, нашую сучаснасьць у палітычных, эканамічных, культурных і бытавых адносінах. Толькі так мы ўзгадуем нацыянальна сьведамых беларусаў. Таму я хацеў-бы, каб „Бел. Газэта“ мела за пункт выхаду для сваёй працы пазнаньне самога сябе, г. зн. свайго народу і пастолькі інфармавала аб іншых, па сколькі было паінфармована аб сабе. Добра ведаючы сябе мы зможам і да сьвету падыйсьці з нашым пунктам гледжаньня, навучымся ацэніваць падзеі з пункту гледжаньня інтарэсаў бел. нацыянальнага руху.

Газэта мае спэцыяльныя мэты. Але яна павінна быць цікавай і карыснай і для тых, катoрыя хацелі-б знайсьці ў ёй нейкія парады ў гаспадарцы і інш., і для тых, хто хацеў-бы там прачытаць нейкі гумарыстычны кавалак і г д. Прыняцьце гэтага пад увагу, прычынілася-б да пашырэньня кругу чытачоў „Бел. Газэты“.

Задачы, як бачым, вялікія, але сродкі малыя. Аднак з малых рэчаў у сутнасьці складаецца і вялікія. Малыя цэглы твораць велікую камяніцу. Сталаю, упартай працай у ясна намечаным кірунку, хоцьбы ідучы здавалася-б да недасяжных мэтаў з прычыны слабых сродкаў — мы зможам зрабіць шмат. Памятайма, хто ня мае вялікіх намераў, таму ня трэба ня толькі малых сродкаў, але ня трэба ніякіх. Гэта будзе ляжачы, мохам абросшы камень. *С. М.*

## Трэба ўзмацняцца.

(в. Тапілец, Беластоцкага пав.).

Управа Беларускага Спажывецкага Каапэратыву ў в. Тапілец, гм. Хорашч, Беластоцкага пав. наладзіла 13 лістапада м. г. публічную лекцыю ў беларускай мове на тэму:

„Што такое каапэратыў у вёсцы і каму ён патрэбен?“. Трэба зазначыць, што каапэратыў спажыўцоў у в. Тапілец існуе 4 гады і, не зважаючы на шэраг памылак у мінулым, мае моцныя падставы дзеля разьвіцьця, а пры належным пакіраваньні справы будзе мець шэраг дасягненьняў супольнай грамадзкай працы.

Лектар гр. В. Л. пры неслабнучым ані на хвіліну зацікаўленьні слухачоў — сяброў каапэратыву і гасьцей, выпаўніўшых па берагі памешканьне каапэратыву—даў выразнае акрэсьленьне вясковага каапэратыву, яго характару з усімі плюсамі і мінусамі такое складанае ў умовах вёскі працы. Думка—ня кожны за сябе, а ўсе разам— чырвонаю ніткаю праходзіла праз вывады чытаўшага лекцыю.

Асабліва многа часу было ўдзелена лектарам пытаньню — каму патрэбен каапэратыў на вёсцы. Справа прыцягненьня беднякоў і серадцякоў—селян у сябры каапэратыву была ўматывавана аўтарам лекцыі, як найбольш важнае заданьне кожнага вясковага каапэратыву. Падрабязна разглядалася падазронасьць і няпрыхільнасьць, якою дораць кожную селянскую арганізацыю чыннікі не жадаючыя, каб сяляне вялі агульныя справы. Дакладна знаёмы з фактычным станам працы Беларускага Спажывецкага Каапэратыву у в. Тапілец, гр. В. Л.—чытаўшы лекцыю, падкрэсьліў шэраг памылковых чыннасьцяў Управы, недапільнаваньне варунку хуткае і таннае даставы тавару ў Тапільскі Каапэратыў, лішне высокі пай (25 зл.), неабходнасьць яго зьнізіць і тым даць магчымасьць уступленьня ў сябры шырокім масам вёскі, а таксама многа наскокаў з боку сяброў і селян на каапэратыў, часта-густа нясьлушных, але маючых карэньні ў памылках Управы.

Трэба падкрэсьліць вагу такіх лекцыяў і пажаданьне, каб часьцей-гусьцей ішлі ў нашую вёску новыя мысьлі, новыя ідэі, тады толькі дзб‘ёмся лепшай долі. Сябра Каапэратыву *Я. Д.*

## У нашай вёсцы.

(Сьвянцянскі павет).

Вёска Кавалі, гэта вёска чыста беларуская і гавораць тут, як старыя, так і малыя па-беларуску. Да гэтага часу ў Кавалёх ня было польскіх арганізацыяў, але-ж у канцы 32 году і ў пачатку 33 зьявілася цэлых дзьве: „Koło Młodzieźu Wiejskiej“ і „Straż ogniowa“. „K. W. M.“ зарганізаваў польскі настаўнік з Маслянак. У вёсцы Маслянкі, дзе ён гэтак сама прабаваў арганізаваць, ніхто не пайшоў. За тое ў нас ад самага пачатку прыступілі да актыўнае працы. Была адыграна польская пьеса. Не прыпала яна нашаму брату да смаку... Слаба разумеем мы чужую мову...

А што да стражы пажарнай, то яно нічога, каб яна тушыла толькі пажары, але калі пачынае змаганьне з нашаю роднаю моваю, з нашаю культураю, дык гэта ўжо гарэй. У ей знаходзяцца нашы хлопцы беларусы, якія павінны зразумець, што яны робяць і што павінны рабіць.

Хіба-ж мы ня маем сваіх арганізацыяў? Маем, павінны іх закладаць і пашыраць сьвядомасьць сярод нашага беларускага народу, — ставіць свае предстаўленьні ў зразумелай роднай мове, церабіць шлях да лепшага заўтра...

Мы павінны ўзяць прыклад адносін да гэтых арганізацыяў з вёскі Маслянікі і шанаваць сваю родную мову. *Прасьцяк.*

## Ня спыняйма працы!

(в. Паніжані, Вялейскага павету).

Жыхары нашай вёскі даволі сьвядомыя беларусы. У нас даўно ўжо вядзецца праца ў кірунку пашырэньня і паглыбленьня нацыянальнай сьведамасьці сярод найшырэйшых слаёў вёскі. Асабліва ў гэтай працы адзначаецца моладзь, якая ўсе сілы кладзе перадусім на барацьбу з культурнай адсталасьцю.

Дня 8-та студзеня г. г. адбылося ў нашай вёсцы беларускае прадстаўленьне. Адыграна была п‘еска „Бэтлеемка“. Артысты—нашы паніжанскія хлапцы і дзяўчаты — адыгралі свае ролі даволі добра. Глядзельнікаў было поўнае памешканьне. Усе з захопленьнем глядзелі на гульню нашых маладых артыстаў. Дык працуйма далей на родным загоне і усьведамляйма братоў сваіх беларусаў. Чэсьць вам, паніжанская молодзь!

*Г. Сулюк.*

# Віленскае жыцьцё.

*Матурысты Беларускай Філіі Дзяржаўнай Гімназіі ім. Сл вацкага.* У гэтым годзе з агульнае лічбы 14 здаваўшых матуральныя экзамены ў Беларуск. Філіі ў Вільні атрымалі матуру 11. Прозьвішчы іх наступныя: Жэдзік, Забельская, Канцэлярчык, Марцінавічанка, Мілючанка, Насекайла, Стракоўская, Сухая, Урбановіч, Фёдараў і Шавелянка.

*Акінчыц пры працы...* Гэты днямі паказалася ў сьвет брашуры Ф. Акінчыца пад загалоўкам „Правакацыя Беларускага Народу“, у якой разглядаецца справа Б. Тарашкевіча.

*...І яны таксама.* Нядаўна ў Беларускім музэі Ів. Луцкевіча ў Вільні цёплае кампанія беларускай санацыі „ўрачыста адкрывала бюст закладчыка музэю „Івана Луцкевіча“. Да сабраных прамаўляў адзін з стаўпоў Луцкевіча Ул. Самойла, які з даручэньня музэйнае рады, да неба падносіў „сьветлую памяць Івана“, Івана, каторы зьбіраў „расьцярушаную ў часе і прасторы душу беларускага народу“. Урачыстасьць гэтая, як можна судзіць з яе прабегу, мела за заданьне ня столькі абудзіць памяць і пашану да закладчыка музэю, колькі да яго цяперашняга кіраўніка — Антона.

„Бел. Крыніца“ наракае, што на гэтую ўрачыстасьць ня было дапушчана „беларускае грамадзянства“ г. зн. „хадэцыя«.

*Камуністы перад апэляцыйным судом.* У канцы прошлага месяца ў Віл. Апэляцыйным Судзе адбыўся працэс 18 камуністаў з Наваградзкага ваяводзтва, якія абвінавачваліся ў вядзеньні агітацыі, ў апоры ўладзе і цэлым радзе іншых сабатажовых акцыяў. У выніку Апэляцыйны Суд вы-

---

да такіх заняткаў, якія-б абясьпечылі яму магчымасьць існаваньня. Заняткам такім быў перадусім гандаль. Бо трэба ведаць, што ў папярэднія вякі жыды пазбаўлены былі мець зямельную ўласнасьць, яны ня мелі права займацца рамяслом, былі абложаны спэцыяльнымі «жыдоўскімі» падаткамі і аб‘яўлены за няздольных да карыстаньня палітычнымі правамі.Усё гэта змусіла іх да пасьвячэньня сябе гандлярскай галіне, да якое толькі доступ быў свабодны. І таму зусім натуральна, што прыродны нахіл жыдоўскага народу да гандлю значна ўзмацніўся і разьвіўся пад уплывам іх гістарычнага разьвіцьця, пад уплывам тых абставінаў, пры каторых ім прыходзілася жыць на працягу доўгіх вякоў. Гандаль стаўся да пэўнай меры нацыянальнай прафэсыяй жыдоўскага народу.

Такім чынам экономічная роля жыдоўскай нацыянальнасьці прычынілася да таго, што амаль кожын жыд, прынамся ў нас, у адносінах да селяніна выступае выключна, як прадавец, купец і ліхвяр, у вачох дробных прадпрыемцаў і гандляроў жыдоўскі прадпрыемца зьяўляецца найбольш грозным канкурэнтам, чыноўніцкія колы ўважаюць жыда за вечнага непераможнага ліхвяра, інтэлігенцыя, а перадусім агранічаная студэнцкая моладзь, бачыць у студэнтах-жыдох сваіх найпаважнейшых будучых спаборнікаў. І таму нічога дзіўнага, што ў радох цёмных дробна-уласьнікаў і інтэлігенцыі, асабліва ў часы што-раз павялічваных труднасьцяў, антысэміцкія настроі растуць, як на дражджох, перадаючыся ў пэўнай меры таксама ў гушчы рабочых і сялян. Калі да гэтага далучыць яшчэ, што, паводле паданьня хрысьціянскай царквы, жыды зьяўляюцца галоўнымі віноўнікамі перасьледаваньня і мучанскай сьмерці Хрыста, калі ўлічыць пануючую ў забітых колах грамадзянства расавую ненавісьць, дык станецца зразумелым як гэтыя рэлігійныя і расавыя мамэнты ў зьвязку з папярэдня вылічанымі матэрыяльнымі прычынамі сілаю рэчаў выклікаюць варожасьць да жыдоўства.

Сацыяльна-эканамічнае палажэньне, якое ў пераважнай большасьці займае жыдоўскае насяленьне ўва ўсей Польшчы і ў нашай краіне, і якое выражаецца ў заняцьці яго гандлярствам — прычыняецца ў значнай меры да зацямненьня належнага разуменьня прычынаў сяньняшняй бяды. Ненавісьць нашага селяніна да гандлю, да ліхвярства, яго незадаволеньне высокімі цэнамі на прамысловыя тавары прымае форму ненавісьці да жыдоў, як такіх. „Мы сваё дабро продаём за бясцэнак, а жыды за свае тавары лупяць з нас падвойную скуру. У жыдзіскаў усе грошы“ — так разважае наш несьвядомы або маласьвядомы селянін, селянін, які па-за жыдам нікога ня бачыць, у вачох якога жыд зьяўляецца і гандляром запалак і капіталістам, селянін, я у здаецца, што сьвет агранічаны да яго вёскі і мястэчка. Яму запраўды трудна зразумець той просты факт, што крызіс сядзіць на карку таксама ў жыдоўскага дробнага гандляра і работніка, як і яго, што ўбогасьць і голад часта бывае іх супольным спадарожным, што, значыць, жыдоўскія працоўныя масы ў такой самай меры зьяўляюцца віноўнікамі за крызіс, як і ён сам. Ён ня можа ўглыбіцца ў справу, каб зразумець, што дарагавізна прамысловых і таннасьць сельска-гаспадарчых тавараў зьяўляецца рэзультатам палітыкі вялікіх прамыслоўцаў, аб‘яднаных у картэлях, што гэтыя т. зв. ножніцы цэнаў б‘юць у аднолькавай меры па беларускіх, польскіх і жыдоўскіх працоўных масах. Ён гэтага ня можа зразумець і вельмі часта даецца злавіць сябе на вудачку антысэмітызму, які можа прыняць форму пагрому жыдоўскіх крамаў. Такі стан зьяўляецца небясьпечным для нашай нацыянальна-адраджэнскай працы, для паглыбленьня нацыянальнай сьведамасьці сярод найшырэйшых гушчаў насяленьня, бо антысэмітызм — гэта адна з формаў шовінізму, нацыяналістычнай агранічанасьці, якая на руку толькі нашым ворагам. Антысэмітызм зьяўляецца аружжам ў руках моцных гэтага сьвету. Пры яго помачы ўзмацняецца нацыяналістычны шовінізм, разьбіваецца супольнасьць інтарэсаў працоўных гушчаў розных нацыяў. Нам трэба аб гэтым ведаць і антыжыдоўскай кампаніі супроцьставіць салідарнасьць працоўных і прыгнечаных усіх народаў.

*П. С—кі.*

**Лёс „Бел. Газэты“ залежыць толькі ад падтрыманьня масаў.**

рак першай інстанцыі адкінуў. Мікалаю Сільвановічу і Івану Казаку зьменшана кара з 15 год на 4, а другому на 5 год вастрогу. Рэшта засуджана на 2 гады, пры чым 8-мі завешана выкананьне кары.

*Уцечка вязьня з вастрогу на Лукішках.* „Dz. Wil." падае, што гэтымі днямі ўцякла з вастрогу адбываючая там кару Вера Лонкевіч, якая ў часе працы ў вастрожным агародзе змыліла чуткасьць вастрожнай стражы.

*Безрабоцьце.* Паводле апошніх даных на абшары Вільні знаходзіцца сяньня 6179 безработных. Найбольшы працэнт — гэта ўмысловыя працаўнікі і невыкваліфікаваныя работнікі.

*Застой на будаўляным рынку.* Рух будаўляны ў гэтым годзе ў Вільні вельмі слабы. Толькі ў месяцы чэрвені пад уплывам поўні сэзону ён трошкі ажывіўся.

У параўнаньні, аднак, з прошлым годам будаўніцтва сёлета набрала слабога размаху. Тлумачыцца гэта тым, што будаўнікі ня могуць дастаць доўгатэрміноваго крэдыту.

*Спор за плату ў „Томмаку".* У „Таварыстве Гарадзкой і Міжгарадзкой Аўтабусовай Камунікацыі" ўжо ад даўжэйшага часу вядзецца спор за плату. Шофэры, кандуктары і работнікі варштатаў і гаражоў Арбону станоўча супроцьстаўляюцца спробам Дырэкцыі абнізіць заработную плату. У выпадку абніжэньня паборам увесь ніжэйшы перзонал пагражае забастоўкай.

*9.700 пратэставаных вэксляў.* Паводле афіцыяльных даных на працягу месяца мая на тэрэне віленскага ваяводзтва запратэставана 9.700 вексляў на агульную суму 1.100,000 злотых.

*Выпадкі.* На працягу прошлага месяца на тэрэне Вільні і бліжэйшых ваколіц здарылася больш 500 няшчасьлівых выпадкаў.

# Навіны

## Польшча

### „Сьвята мора".

Дня 29-га чэрвеня ў-ва ўсей Польшчы абходжана было „Сьвята Мора". Дзень гэты пасьвечаны быў прапагандзе абароны і ўзмацненьня пазыцыі Польшчы на моры. У адказ на што-раз узрастаючую агрэсыўнасьць Нямеччыны ў адносінах да заходніх правінцыяў Польшчы, а перадусім да Памора, польскае грамадзянства ў дзень Сьвята Мора выказала гатоўнасьць да абароны сваіх правоў.

П. Прэзыдэнт Польскае Рэспублікі ў сваёй ўрачыстай прамове між іншым зазначыў:

„Мы існуем і застанемся на заўсёды над нашым польскім морам, яно будзе трывалым памостам паміж намі і сьветам".

### Яшчэ адна польска-савецкая ўмова.

У другой палове прошлага месяца паміж Польшчай і СССР падпісана важная ўмова аб сплаве дзерава на гранічных рэках. Умова гэтая рэгулюе варункі, на падставе якіх будзе адбывацца сплаў на гэных рэках. Да гэтага часу існаваў цэлы шэраг умоваў лёкальных, якія былі заключаны паміж адміністрацыйнымі ўладамі абедзьвюх дзяржаў.

### Сутычка паміж сялянамі і паліцыяй.

П. А. Т. падае, што ў паветах ропчыцкім і жэшоўскім дня 21 чэрвеня адбылася крывавая сутычка паміж сялянствам і паліцыяй. Сяляне пасобных мясцовасьцяў гэтых паветаў, падбураныя левымі агітатарамі прабавалі высякаць самавольна прыватны лес. Паліцыя перашкодзіла грабежы, заклікаючы ўсіх разыйсьціся. У адказ на гэта натоўп закідаў паліцыю каменьнямі, даючы адначасна ў яе некалькі дзесяткаў стрэлаў, раняны 6 паліцыянтаў і цяжка камэнданта Раймана, каторы хутка памёр. У выніку сутычкі 3-х удзельнікаў забіта, а натоўп разагнаны.

Пасьля гэтага ў гміне Наскова група людзей прабавала адбіць арыштаваных, абсыпаючы паліцыю каменьнямі. Паліцыя ў абароне застасавала аружжа. 6 асоб забіта, некалькі паліцыянтаў ранена.

### Сутычка паліцыі з бандытамі.

Дня 26 чэрвеня г. г., падчас ночнае аблавы, якую праводзіла паліцыя на абшары маладэчанскага павету, адзін з паліцыянтаў спаткаў у адлегласьці 10 кілямэтраў ад Маладэчна дзьве незнаёмыя асобы, каторых хацеў вылегітымаваць. У адказ на гэта незнаёмыя дасталі рэвольвэры і далі ў паліцыянта некалькі стрэлаў, моцна раняючы яго. У часе страляніны адзін з бандытаў застрэлены, а другога арыштавалі. Цяжка раненага паліцыянта перавязьлі ў шпіталь, дзе ён, паміма дапамогі, памёр.

### Безрабоцьце.

Паводле афіцыяльных даных лік зарэгістраваных безработных выносіў на 26 чэрвеня г. г. 226.466 асоб.

## Заграніца

### Новая хваля арыштаў у Нямеччыне.

У другой палове чэрвеня па ўсей Нямеччыне пракаціліся новая хваля масавых арыштаў, якія скіраваны ў першую чаргу супроць рабочых і паступовае інтэлігенцыі. Паміж арыштаванымі знаходзіцца вельмі шмат вучыцялёў, якіх віной зьяўляецца тое, што яны выступалі супроць цялеснае кары, заведзенай цяпер у Нямеччыне. У канцы чэрвеня зьліквідаваны партыі сацыял-дэмократычная і нямецка нацыянальная, у рэзультаце чаго шмат кіраўнікоў іх павандровала заграніцу і ў вастрогі. Агулам, паводле прэсавых вестак арыштавана больш тысячы асобаў. Так рэалізуецца „аздараўленьне нямецкага народу".

### Адтэрмінаваньне разбраенчай канфэрэнцыі.

Прэзыдыюм мірнай канфэрэнцыі пастанавіў адлажыць працу канфэрэнцыі да 16-га кастрычніка г.г. Прычынай адлажэньня зьяўляюцца труднасьці што да асягненьня адналітага пагляду на т.зв. другі праект канвэнцыі. Гэндэрсон у сваёй апошняй прамове зазначыў, што супярэчнасьці паміж Нямеччынай і краінамі пераможцамі ня могуць быць злагоджаны сталымі дыскусыямі ў залях канфэрэнцыі. Гэта ў значнай меры залежыць ад вынікаў гаспадарчай канфэрэнцыі ў Лёндане.

І так, амаль паўтарагадовая праца канфэрэнцыі не прынясла нічога апрача дыскусіі і... адрачэньня. Трэба спадзявацца, што гэта ёсьць першым крокам да яе сканчэньня.

### Галодны паход безработных Дэтроіту.

У пачатку чэрвеня г. г. у Дэтроіце (Злучаныя Штаты) 25 тысяч безработных наладзілі галодны паход на завод А. Форда у Дзірборне, дамагаючыся дапамогі. Паліцыя пільнавала завод з кулямётамі.

### Адпружаньне ў адносінах паміж СССР і Японіяй.

Апошнімі часамі адносіны паміж Саветамі і Японія значна палепшыліся. У Токіо распачаліся перагаворы паміж прадстаўнікамі абедзьвюх дзяржаў у справе продажы ўсходня-кітайскай чыгункі. Прэса падае, што перагаворы стаяць на добрай дарозе. Японскаму амбасадару Ота старшыня Саўнаркому Молатаў між іншым зазначыў, што савецкі ўрад нязьменна імкнецца да ўзмацненьня прыязных сьвецка-японскіх адносінаў.

### Супроцьгітлероўская кампанія ў Англіі.

У Лёндане перад будынкам нямецкае амбасады ўжо некалькі разоў адбываліся магутныя дэмонстрацыі супроць гітлероўскага рэжыму ў Нямеччыне. 26 чэрвеня ізноў адбылася шматтысячная дэмонстрацыя паступовых пластоў народу супроць новай хвалі перасьледаваньня работніцкага руху ў краіне гітлерызму. Будынку сьцярог моцны аддзел паліцыі.

### Пашырэньне тэлеграфічнай комунікацыі паміж Польшчай і СССР.

ПАТ. паведамляе, што ў месяцы ліпені будзе адчынена тэлефонічная комунікацыя паміж Масквою і большымі гарадамі ў Польшчы. Факт гэты ацэньвае прэса, як далейшы крок у кірунку зблізкэньня паміж Польшчай і СССР, да чаго прычыніўся ў значнай меры „трактат чатырох".

### Унутраная пазычка „І году ІІ пяцігодкі".

Газэты падаюць што вясною г. г. савецкі ўрад расьпісаў унутраную пазычку пад назовам „першы год другой пяцігодкі". Даведаемся што гэтая пазычка „пашла ў тэмпе рэкордовым". У працягу 20 дзён пакрыта 3 мільярдную суму з надвыжкай 50 мільёнаў.

### Незадаволеньне ў партыі Гітлера.

На працягу апошніх тыдняў газэты ўсё часьцей і часьцей падаюць весткі аб росьце незадаволеньня ў радох гітлероўцаў. Дацяперашняя палітыкі нямецкага ўраду шмат каму ўжо працёрла вочы, даючы магчымасьць убачыць, чым запраўды зьяўляецца гітлерызм. У зьвязку з гэтым паліцыя даканала шэрагу арыштаў сярод непаслушных членаў гітлероўскай партыі. Як падае ангельская прэса, апошнімі часамі адбываюцца фармальныя бунты у шэрэгах гітлероўскіх штурмовых аддзелаў, якія набралі грознага характару ў Монахізі, Франкфурце над Майнам, Дрэзьне і Бэрліне.

### Злучэньне Бальтыцкага мора з Чорным.

Даведаемся з газэтных інфармацыяў, што нядаўна выканаты канал, які злучае Бальтыцкае мора з Чорным. Даўжыня яго 227 км. (Суэцкі канал — 164 км.) Канал гэты будзе мець агромадные значэньне для гаспадарчага разьвіцьця поўначы Савецкага Саюзу.

### Хто зьяўляецца нападаючым?

Дня 3-га г. м. у Лёндане падпісаны пратакол, які акрэсьлівае паняцьце нападаючага. Конвэнцыю (дагавор) падпісалі Польшча, СССР Румынія Латвія, Эстонія, Турцыя. Акрэсьленьне гэтае, абапёртае на прапазыцыі наркому Літвінава, кажа проста, што нападаючым ёсьць той, хто пры помачы збройных сілаў урываецца на тэрыторыю, каторая знаходзіцца над уладаю іншай дзяржавы. Польская прэса прыдае гэтаму пратаколу вялікае значэньне, уважаючы яго за праўдзівы крок да міру.

### Канец ангельска-савецкай мытнай вайны.

Дня 2-га ліпеня ангельскі ўрад адклікаў эмбарго (забарона ўвозу) на савецкія тавары. Савецкі ўрад, на падставе амнэстыі Ц. В. К., выпусьціў на волю арыштаваных і засуджаных на два гады інжынераў Макданальда і Дорндона, высылаючы іх заграніцу. Такім чынам гаспадарчая вайна паміж саветамі і Англіяй скончылася. Прэса ацэньвае гэты факт, як перамогу ўзаемных ангельска-савецкіх гаспадарчых інтарэсаў і адначасна, як паражку ангельскіх консэрватыстаў.

### Напружаньне паміж Англіяй і Японіяй.

Паміж Англіяй і Японіяй разгарэлася барацьба за індыйскія рынкі. Англія стараецца не дапусьціць да ўвозу японскіх тавараў у Індыю. Гэта выклікала вялікае абурэньне ў японскіх дзяржаўных колах, якія дамагаюцца адкліканьня супроцьяпонскіх захадаў, пагражаючы ў праціўным выпадку, паважнымі консэквэнцыямі.

Гэта, бязсумліву, прычыніцца да адпружаньня ў савецка-японскіх адносінах.

### Напад на канцэнтрацыйны лягер.

У ноч з 16 на 17 чэрвеня г. г. нямецкія рабочыя напалі на канцэнтрацыйны лягер каля Згожэліну. Пасьля кароткае сутычкі з штурмовымі адзеламі — рабочыя адступілі.

### Аўстрыя і Нямеччына.

Стасункі паміж Аўстрыяй і Нямеччынай завастраюцца з кожным днём. Гітлер, скіроўваючы свае вочы і апэтыты на ўсход не забывае і пра Аўстрыю. У сваёй праграме ён выстаўі т. зв. аншлюсс, як баявое заданьне ў паўднёва-усходняй палітыкі. Прылучэньне Аўстрыі да гітлероўскай Германіі значна ўзмоцніла-б экспансію нямецкага імпэрыялізму на паўднёвы ўсход. Аднак аўстрыйскі ўрад узяў „курс на самастойнасьць" свае краіны. Будучы у сьціслым супрацоўніцтве з Францыяй і Англіяй цяперашняя Аўстрыя вострa вострa супроцьставіцца палітыцы Гітлера, які імкнуўся на Балканы закранаў-бы перадусім інтарэсы ангельскіх і французскіх гаспадарчых колаў.

### Рух у калёніях.

У Партугальскай калёніі Анголе (Афрыка) выбух бунт мясцовай людкасьці супроць падатковых цяжараў. Грамада ў 8 тыс. людзей, узброеная ў сучаснае аружжа, зрабіла аблаву на падатковых экзэкутараў. У выніку шмат забітых. Португальскі ўрад рыхтуецца да правядзеньня пацыфікацыі Анголы.

**Прыпамінаем нашым паважаным падпішчыкам, што ўсім, хто ня прыслаў падпіснай платы, змушаны будзем спыніць высылку „Беларуск. Газэты"**

*Адміністрацыя.*

## Адказы рэдакцыі.

С. Каліна. Артыкулы і карэспандэнцыі атрымалі. Па магчымасьці выкарыстаем. Ці не маглі-б Вы прыслаць нам пару апавяданьняў або вершаў?

У. І. Апавяданьне Ваша „Ня поўны беларус" зьмясьціць ня можам. Паміма пэўнае яго мастацкае вартасьці, яна не адбівае фактычнага стану рэчаў. Вы хочаце прадставіць, што ані хадэкі, ані белар. санатары нічога і нікога за сабой ня маюць, між тым, як у запраўднасьці яны стараюцца абаперціся і да пэўнай меры апіраюцца на заможнейшай праслойцы бел. народу.

Г. Сулюк. Карэспандэнцыі выкарыстоўваем. Вершаў радзім ня пісаць. Пятрусь Граніт. Вершы Вашы атрымалі. Ня зьмесьцім, таму што, паміма добрых думак у іх паважна кульгае форма. Папрабуйце пісаць прозаю. Чакаем на карэспандэнцыі. Я. Піскуновіч. Адрэс „Летапісу ТБШ"— Вільня, Боніфратэрская 2—3, Галоўная Управа ТБШ. Усім, хто просіць, каб „Бел. Газ" выходзіла часьцей. Нажаль ня можам зараз пайсьці на спатканьне гэтай просьбе, бо яе немагчыма зьдзейсьніць у зьвязку з матэрыяльнымі труднасьцямі. Аднак, калі-б з падпіскаю пашло лягчэй у наступным месяцы мы маглі-б ужо выдаць тры нумары. Таму кожын, хто чытае нашую газэту, павінен зразумець, што яго грамадзкім абавязкам ёсьць прыслаць хоць некалькі грошай. Слухачу. Карэспандэнцыя да друку не надаецца. Напішыце што-небудзь паважнейшае. Атрыманы грошы ад: Будзько Э. Прышчэпка Г., Крыўца П., Война А., Есіся Я., Бацяна А., Яноўскага Г., Піскуновіча Я., Халявіна А., Дзяміта Я., Ланько М., Оліфэровіча С. па 1 зл. 30 гр.; ад Стапнеўскага Э. і Марцінкевіча Ф. па 2 зл.; ад: Янкоўскага У.—2 зл. 50 гр.; ад Кішкеля Алякс. і Лаппо Я. па 1 зл. 50 гр.; ад Альхімовіча Я. і Малочко П. 1 зл. 25.; ад Булатага Я., Благадыра Я., Анапкага М., Шынкевіча Я., Такарэвіча П., Лабовіча Т., Буднічанкі Г., Шэлестовіча М., Бурдзюка В., Валчка А., Абламейка А., Негарыша Ф., Зыгаліны Б., Сьцябуроко К., Казберуна Я., Вішэйкі С. па 1 зл.; ад Бякрэня М. 1 зл. 40 гр.; ад Захаркевіча Я., Чыжэўскага С., Максімава Я., Камарэвіча П., Бойка М. па 75 гр.; ад: Гуртка ТБШ у Цецяруцы, Скайца Я., Ланкуса М., Тарасевіча П., Жыўлюка Я., Банасэвіча М., Кулака С., Дарошына Я., Скарыны М., Даніліка А., Паўленяна М., Маркевіча Я. па 70 гр.; ад: Юруця П. 55 гр.; ад: Даніловіча Б., ад Нар. Дому—Пачапоў, Аўсейчыка К., Варановіча К., Лашука М., Барана М., Скарка Я., Неўскага Б., Камара М., Жука М. па 50 гр.; ад Сіняка К. 60 гр.

(Працяг у наст. нумары).

Рэдактар-выдавец А. Карповіч.

Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22